№ 61 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 61 (153). Год II. Вільня, 31 ліпня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Немцы у Падольлі.

## 30 ліпня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Паабедзі артылерыйскі агонь ворагоў узмацаваўся нанова. На узбярэжжы і да адрезку ад Гэд-Сас да Вэльт'е артылерыйская бітва крапчэла і ў начы. Разведачные дружыны англічан тутака адкінуты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Шмэн дэ Дам, на шырыні 9 кілом. фронту, тры сьвежые французскіе дывізіі пачалі ізноў вялікі штурм. Агнём і контратакамі мы ўсюды адбілі яго. На поўдні ад Ай гэтак сама адбіты дзьве атакі. Ворагі ўсюды мелі цяжкіе страты, нічога не дайшоўшы.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Група войск Бэм-Эрмолі:

Мы перайшлі ў некольківх мейсцох гранічную раку Збруч. Расейцы дзержацца на гарах на ўсходзі ад яе. На поўдні ад Скалы мы дайшлі да Збруча. На паўночным беразі Днестра мы перайшлі цераз Каралёўку. На палудзенным заходзі ад Залешчык мы адкінулі ворагоў далей.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* На ўсходнім беразі Чэрэмоша ворагі упорна бароняцца. Між Залучэм і Вішнецам мы пасунуліся ўпярод. У даліне Сучавы мы дайшлі да Сэлетыня.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* На поўначы ад Фокшан і ў усьці Рымнікуля ўзяты некольві сот палонных.

---

АМСТЭРДАМ (В.Т.Б.). Расейская граніца ад 28 ліпня на 15 жніўня зачынена як для прыезду, так і выезду.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Тымчасовы ўрад апублікаваў заяву, што ўсім грамадзянам Расеі даецца поўная свабода сумленьня.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Нацыональны конгрэсс у Маскве збярэцца толькі пасьля аканчацельнай перастройкі габінэту, значыць, болей-меней за тыдзень. Урад вядзе перэгаворы з рознымі думскімі дзеячамі, асабліва с кадэтамі, партыя каторых прынцыпіальна згодзілася, каб некаторые члены яе ўвайшлі ў габінэт.

ШТОКГОЛЬМ. Офіцыальна пацьверджэн арэшт Леніна.

ВЕНА. Украінскі Саюз у аўстрыяцкім парлямэнці с прычыны прыпадкоў у Расеі прыняў рэзолюцію, кажучы, што украінскі нацыональны рух стаўся заходняэўропэйскай справай і ня выйдзе ўжо с-паміж спраў вышэйшай палітыкі.

БЕЛАСТОК. Korespondenz B. даносіць, што расейскіх рублёў у межах Обэр Ост офіцыальные кассы больш не прынімаюцца с прычыны поўнаго упадку расейскай валюты.

БЭРЛІН. Сіамскі пасол заявіў у міністэрстве заграні чных спраў, што Сіам знаходзіцца у стане вайны з Нямеччынай.

ЖЭНЕВА. У бітвах пад Смаргонямі першы расейскі жаноцкі батальён атрымаў сваё першае баевое хрышчэньне. Сваім прыкладам ён павёў у бітву суседніе дывізіі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак каля берагоў Англіі: 23.000 тонн.

ПАРЫЖ «Petit Parisien» даносіць с Пецярбурга, што расейскае міністэрство адраклося ад свайго жаданьня перэглядзець ваенные мэты, каб ня вызваць фальшывых гутарак.

БАЗЭЛЬ. Глаўнакамандуючый палудзенна-заходнім фронтам генэрал Корнілов атрымаў ад тымчасоваго ураду неаграні чэные паўнамочча. Генэралы Рузскій і Гурко вызваны ў Пецярбург.

Урад пастанавіў зачыніць усе газэты, які е пішуць проці вайны.

ЛЮГАНО. «Secolo» даносіць, што конфэрэнція саюзьнікоў у Парыжы намеціла стратэгічные крокі на зіму і вясну 1918 году.

## Зачарованы круг.

Фактычны цяперашні дыктатар Расеі, Керэнскій, пачынаючы сваё наступленьне, зрабіў тую-ж абмылку, якую ешчэ ў пачатку вайны рабілі такіе сьветлые сыны расейскаго народу, як Колюбакін, Обнінскій і інш.

Колюбакін, так безкарысна злажыўшый сваю галаву пад Варшавай, Обнінскій, налажыўшый на сябе рукі пасьля таго, як сваімі вачыма ўбачыў работу царавых слуг у „вызволенай“ ад Аўстрыі Галічыне, і цэлы рад іх аднадумцоў верылі, што пабедная расейская армія, выграўшы вайну, вернецца дамоў і тут дойдзе пабеды над другім сваім ворагам—самадзержаўным царскім урадам. Нічога не памагалі доказы палітычных праціўнікоў іх, казаўшых, што пабеда Расеі—гэта пабеда старога ладу, што ад гэтаго царская ўласць над народам толькі узмацуецца; не памагалі гісторычные прыклады, як японская вайна, проігрыш каторай вызваў рэволюцію і даў Расеі Думу: гэтые людзі лішне крэпка верылі ў яркі міраж, створэны іх гарачай любоўю да Бацькаўшчыны.

Не пабеды, а ваенные неўдачы вызвалі ў Расеі цяперашні разгром самадзержавія і палажылі канец царскай гаспадарцы. І ўжо гэта адно павінно было падказаць галовам рэволюцыйнай Расеі, што, ваюючы далей, яны стаўляюць на карту ўвесь новы лад, усе здабычы рэволюціі, што новые неўдачы на фронці—гэта страшэнны ўдар рэволюцыйнаму правіцельству. Але Керэнскій, ня гледзячы на гэта, пачаў наступленьне, і вось на нашых вачах ужо адбываецца расплата за неўдачы ў Галічыне...

Тымчасовы ўрад вінаваціць у галіцкім пагроме большэвікоў, — зусім так сама, як царскае правіцельство вінаваціло ў ранейшых сваіх неўдачах „соцыалістоў“, „жыдоў“ і, наагул, „інородцоў“. Растлумачыўшы гэтак прычыну неўдачы сваей фальшывай палітыкі, тымчасовы ўрад далей ідзе старой дарогай. Чаго ён дойдзе?

Можэм сказаць толькі адно: дарога гэта да скораго міра не вядзе. Не вядзе затым, што першая расейская вялікшая пабеда ўмацавалабы ўпаўшый ваяўнічый дух у народзі і зусім заглушылабы голас тых, хто цяпер так цьвёрда дабіваецца міра. А тады перад намі—цэлые новые гады вайны, ў часі каторай у Расеі могуць здарыцца зусім неспадзеваные прыпадкі. Ды нават у найлепшым прыпадку, калі б вайна пайшла далей удачна для Расеі, яна будзе каштаваць гэтулькі ахвяр жыцьцём і меньнем чэлавечым, сколькі не забрала бы найбольш крывавая рэволюція. Наадварот, неўдачы на фронці могуць толькі узмацаваць у Расеі жаданьне чым-хутчэйшаго міра і гэтым самым набліжыць замірэньне; але тады ў шырокіх массах можэ узняцца страшэнны бунт проці рэволюцыйнаго правіцельства, каторае ўсе будуць лічыць за вінавайцу неўдач і тут створыцца шырокае поле для работы ворагоў рэволюціі, староннікоў царскай уласьці.

Керэнскій, уступіўшый грозьбам саюзьнікоў і пачаўшый наступленьне, папаў запраўды ў зачарованы круг: каб недапусьціць анархіі, або контррэволюціі, ён далей вядзе вайну; спатыкаючыся з неўдачамі, ён хочэ пакрыць іх новымі пабедамі і йдзе ўсё далей і далей праз горы трупоў, ды па гэтай дарозі можэ дайсьці туды, скуль упадак суліць сьмерць; жаданьнем дайсьці міра пабедамі ён аддаляе гэты мір.

Абмылка, зробленая будаўнічым пры закладзінах фундамэнтоў сьцяны, выяўляецца ва ўсей далейшай рабоці і грозіць знішчэньнем яе. Гэтая самая грозьба стаіць перад рэволюцыйнай Расеей.

*І. М.*

---

## Tempora mutantur...*)

Пішучаму гэтые словы папало неяк у рукі апісаньне сьвяткаваньня 200 летняго юбілея пабеды Петра I над швэдамі пры вёсцы Лясной, Магілёўскай губэрні, якое адбылося 28 верасьня 1908 году. У вочы кінулася адна странічка: на ёй надрукована прамова дэпутата ад Яраслаўскай губэрні, каторы ад імі яраслаўцоў мовіў гэтак:

„Пасылаючы нас у Лясную, у глыб старой Беларусі, мне, яраслаўцу паводлуг мейсца жыцьця і каранному беларусу па роду, яраслаўцы загадалі: «Ідзі да родзічоў сваіх, аддай ім наш братні прывет і скажы ім: з мутным патокам рэволюціі дайшла да нас, яраслаўцоў, дзіўная і непадобная да веры вестка, бытцым браты нашы, беларусы, пачалі даваць послух руйнуючым гутаркам аб нейкай аўтономіі Беларусі. Дык скажы нашым родным братом па крыві, што Вялікая Русь ня верыць гэткім чуткам: яна злучэна з Белай Русьсю неразрыўнымі звязямі — супольнай верай, языком і ядынай Дзержавай Вялікіх самадзержцоў усяе Расеі. І ў гэты дзень звязь узмацовываецца і ась-

*) Часы зменяюцца...

сіла тымчасовы **ўрад закрыць граніцы дзержавы.**

Што датычэцца закрыцьця граніц для выезду з Расеі, дык гэта загадано с прычыны жаданьня ураду вылавіць праступные элементы, каторые укрываюцца ад судоў, і чысьленых шпіёнаў, каторые наежджаюць у Расею.

Разумеючы, як ад гэтаго церпіць народ, урад загадаў гэтые крокі толькі на час да 15 жніўня.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Вялікі нацыональны з'езд прэдстаўнікоў розных організацій і ўсіх думскіх дэпутатоў збярэцца ў Маскве 31 ліпня.

У тую пятніцу Керэнскій прыбыў на супольную нараду спаўніцельнаго камітэту рады раб. і салд. і прэдстаўнікоў селян і запрасіў іх на гэты з'езд. Ен сказаў: „Удары на фронці і ў сьпіну — гэткіе сільные, што мы павінны сабраць усе сілы, каб ратаваць волю. На з'ездзі ў Маскве урад будзе прасіць памагчы яму ў гэтай задачы. Там ён адкрые праўдзівае палажэньне старонкі. Прарыў фронту стварыў добры грунт дзеля контррэволюціі, але ўрад цьвёрда пастанавіў усемі сіламі бароцца проці анархіі і зрабіць немагчымым паварот стараны да старой формы упраўленьня". Керэнскій прасіў спаўніцельны камітэт разарваць усе зносіны з элемэнтамі, каторые працуюць на карысць контррэволюціі. Маршалак рады, Чхэідзэ, адказаў, што ўрад знойдзе ў камітэці магутную апору дзеля ратаваньня рэволюціі і Расеі.

ЛОНДОН. «Daily News» даносіць с Пецярбурга:

Рада раб. і салд. пастанавіла **ўраз жэ прыступіць да выбароў у устаноўчы сэйм**, каторы мае складацца з 800 дэпутатоў—па адным на кожные 300.000 жыхароў. За выбарные адзінкі прыняты губэрні, якіе будуць выбіраць ня менш 5 дэпутатоў. Пецярбург і Масква будуць станавіць асобные выбарные адзінкі.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Спаўніцельный камітэт рады раб. і салд. 300-мі галасоў проці 11-ці пры 60-ці стрымаўшыхся ад падачы голасу прыняў рэзолюцію, дамагаючыся **аддачы большэвікоў пад суд** за організацію разрухоў, падбіваньне да бунту і атрымліваньне грошы ад немцоў. Рэзолюція трэбуе публічнаго суда над Леніным і Зінов'евым. Партыю большэвікоў рэзолюція прызывае ўраз жэ высказаць свой прысуд сваім кіраўніком. Усе, хто будзе аддадзен пад суд, павінны быць да канца суда выдалены са спаўніцельных камітэтоў.

ШТОКГОЛЬМ. Тутэйшая Карэспандэнція, каторую выдаюць большэвікі, друкуе рад дакумэнтоў, каб паказаць, што Керэнскій дзеля змаганьня з большэвікамі ўжывае найбольш суровых спосабоў, ужываных у часах панаваньня самадзержавія.

ШТОКГОЛЬМ. Ходзяць чуткі, што палажэньне Керэнскаго с прычыны гангрэны на назе вельмі сур'ёзнае. «Daily Express» пішэ, што **Керэнскій** аб'ежджаючы пад агнём на аўтомобілю Галіцкі фронт, **ранен** сур'ёзна.

Большэвікі выдаюць цяпер новую газэту «Новая Правда».

Украінская Рада, як даносяць с Кіева, прыняла імя **сэйму незалежнай Украіны.**

«Бірж. Вед.» пішуць, што фінляндзкі генэрал губэрнатар Стаховіч падаўся у адстаўку, ня згодзіўшыся на вострые крокі Керэнскаго проці Фінляндзіі.

ЛОНДОН. Тутэйшые газэты друкуюць прамовы, сказаные ў пецярбурскай радзе раб. і салд. перад апошнімі разрухамі. Яны паўны напасьцей на **Брусілова**, аб каторым Чхэідзэ сказаў, што ён без ніякай карысьці **загубіў поўмільёна расейскіх грамадзян.**

Англіцкіе газэты пішуць, што генэрал **Корнілов расстрэляў** сваей артылерыей цэлую **дывізію XI арміі**. »Daily Express» з гэтай прычыны кажэ, што тая дывізія складалася не с салдатоў, а с палітыкоў—аднадумцоў Леніна, заражаўшых усю армію сваімі прамовамі.

ПЕЦЯРБУРГ. «Нов. Вр.» пішэ, што Керэнскій атрымаў пісьмо с крэйсэра «Аврора», што яго заб'юць, калі ён да канца ліпня не адмовіцца ад становішча міністра-прэзыдэнта.

ЛОНДОН. «Daily Telegr». даносіць с Пецярбурга аб перамені паглядоў грамадзянства. Цяпер ужо трэба берагчыся, каб палітыка не пайшла па **рэакцыйнай** дарозі. Адна конная дывізія высказала жаданьне, каб большэвікоў выдалілі з рады раб. і салд. Аб варожым да большэвікоў настраеньні даносяць і с правінціі. Гэтак з Ростова даносяць аб напасьцях на большэвікоў.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Пасьля таго, як глаўнакамандуючые на фронтах зажадалі, каб дзеля адналеньня дысцыпліны была-бы **вернена кара сьмерці**, кара гэта вернена і будзе мець сілу да канца вайны. Ваенные суды складаюцца с трох афіцэроў і 3 салдатоў.

Тымчасовы ўрад пазволіў ваенным міністру і міністру ўнутрэных спраў **спыняць пэрыодычные выданьня** за прызывы да неслухмянасьці ўласьці, нарушэньня ваенных павіннысьцей і да гвалтоў, аддаваючы рэдактароў іх пад суд.

ЖЭНЕВА. «Petit Parisien» даносіць с Пецярбурга, што Керэнскій загадаў прымусовы **набор усіх мужчын ад 18 да 46 гадоў.** Члены скінутай дынастыі гэтак сама падлегаюць ваеннай павіннасьці, як салдаты.

Расейскі фронт у усходняй Галічыне ўжо 23 ліпня быў адсунут на 50—60 кілём. на шырыні 250 кілём.

БАЗЭЛЬ. С Пецярбурга даносяць:

**Расея уступіла Злучэным Штатам** прыналежную ей ешчэ **часць Сахаліна.**

ПЕЦЯРБУРГ. За 1916 год прывоз у Расею перавысіў вываз на 2.107 мільёнаў руб., а ешчэ ў 1913 гаду Расея вывозіла тавароў на 138 мільёнаў руб. больш, чым у яе прывозілі.

# З усяго сьвету.

ПАРЫЖ. Прэдстаўнікі пацярбурскай рады раб. і салд. прыехалі сюды з Лондона.

ЖЭНЕВА. Ллойд Джордж сказаў парыжскім журналістам:

Англія мае цяпер каля 5 мільёнаў салдатоў, ня лічучы поўмільёна матросаў і 1 мільёна колоніяльных войск.

ЛОНДОН. (В. Т. Б. Рэўтэр). У Лідсе было пастаноўлено наладзіць раду раб. і салд. паводлуг расейскаго прыкладу.

Гэткая рада сабралася і ў Сайсгеці, акраіне Лондона. На заседаньні рады ў касьцелі ўварвалася група людзей дзеля патрыотычнай дэмонстраціі, і узнялася бойка з міралюбцамі. Пры выхадзе міралюбцоў публіка закідала іх балотам. Касьцёл у сяродку зніштчэн.

На падобным жэ заседаньні у Н'ю-Кастлі салдаты і матросы аб'явілі здрайцамі ўсіх, хто будзе гаварыць аб міры. Калі-ж на заседаньні было пастаноўлено працаваць за мір, салдаты ўварваліся туды і пачалі біць усіх.

КОПЭНГАГА. У Корку, ў Ірландзіі, сінн-фэйнэры устроілі разрухі, каторые прынялі характэр адкрытай рэволюціі. Былі прызваны войскі с кулемётамі і артылерыей. Дэ Валера заявіў:

„Мы змагаемся за поўную незалежнасць Ірландзіі. Пры спробе ўвясьці гвалтам ваенную павіннасць пачнецца адкрытая вайна. Мая глаўная задача — даць аружжэ і організаваць маіх аднадумцоў".

БЭРН. Французская палата высказала давер'е міністэрству Рібо перэвагай 281 проці 183 галасоў. Гэта лічаць за знак аслабленьня давер'я парлямэнту да цяперашняго правіцельства.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

**27.VII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У вечары артылерыйская бітва у Фляндрыі ізноў дайшла найвялікшай сілы. Разведкі англічан усюды адкінуты. Пры Гонкур, на поўначы ад С.-Кантэн, нашы дружыны, ўварваўшыся ў варожые акопы, ўзялі многа палонных.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Шмэн дэ Дам, на поўдні ад Ай, ля хутара Іртбіз і Высокай гары французы вялі дарэмные контратакі. На адрэзку Ай число ўзятых намі палонных дайшло ўжо 1450 душ. Здабыты 16 кулемётаў і 70 шыбкастрэльных стрэльб. На ўсходзі ад Сюіп наш набег на варожые акопы даў нам многа палонных.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Група войск Бэм-Эрмолі:

На вачах нямецкаго імператара нашы дывізіі ў вострых бітвах пасунуліся далей упярод на ўсходнім беразі Сэрэта. На поўдні, ня гледзячы на цьвёрды адпор расейцоў, мы перайшлі церăз рэчку Гнезну і цераз Сэрэт ад Трэмбовлі да Скоморача. Наабапол Днестра мы шпарка йдзем упярор. Коломэя ўзята баварскімі і аўстрыяцкімі войскамі.

Фронт *эрц-гэрцога Іозэфа*: У паўночнай часьці лясістых Карпатоў нашы войскі гналіся за адыходзячымі на Прут ворагамі. У гарах узняліся новые бітвы. Мы аддалі ворагам даліну Совэі да верхняго цячэньня Путны.

---

том, але только своим зданем, и уподобанем владность свою Господары, и Короли того света над людьми ростегали, але иж часто кроть от прыстойное своее повинности отступовали, а на свой только пожыток речы натегаючы о спольное доброе всих мало дбали оттуль то было уросло, же люди брыдечысе их панованем, и звирхностю, и не Господарами, але тыранами оные называючы на самом только статуте, и праве описаным всё беспеченство, и доброе Речы Посполитое засажали, а прото он великий и зацный филозоф греческий, Арыстотелес поведил, же там беллуа, а по нашому дикое звера пануеть, гдзе чоловек водлуг уподобаня своего владность свою ростегаеть, а где право гору маеть там сам Бог всим владнеть.

**Начатак агульнай прадмовы да Статута Літоўскаго 1588 г.**

Обачывали то всих веков люди мудрые же в кождой Речы Посполитой чоловеку почстивому, ничого не маеть быти дорожшого над вольность, а неволею так се маеть гыдити же не только скарбами, але и смертю ее од себе отганяти ест повинен, а прото люди почстивые не только маетности, але и горл своих против кождому непрыятелю выносили не жалують, абы под их окрутное нанованье не прыходили, а з вольности своее будучы злуплены водлуг воли и мысли их яко невольники не мусели жыти.

*На преславные а старовечные клейноты или гербы Ясьневельможного Пана, Пана Льва Сапеги Подканцлерого Великаго Князьства Литовскаго, Слонимскаго, Мядельского, Марковского и дальшых Старосты, епиграмма. Андрея Рымшы.*

Всё можем своим оком, лацно обачыти,
Должыню и шырокость, шнуром позначыти.
И чоловека можем, познати по творы
Если в собе не маеть лишнее прывары,
А где цнота собе обрала оселость
Там ростороп ест до всего, и мужская смелость,
Которая зацные завжды домы буди
И клейноты роздаеть, тыми слынуть люди,
Бо такие нийколи с света не изходзеть
Але один по другом во веки славу плодет'.

**З д'ярюша Самуэля Маскевіча.**
(Канец XVI сталецьця 1598—1600).

..А положенье замку и места Смоленского такое ест: межы замком а местом, река Днепро оплывае, заж ест на одней стороне замок, на другой место. Ест одна гора замковая сустромна вельми ку Днепрови, ровов вельми много маючая и глыбоких; гор на ей сем, оном з одное до другое переходы были-бы утрудливые еслибы не мосты. Место аж до Днепру у ровнейшому мейсцу осажено нижли замок, але у гразкому а болоцистому, а протож гора вдаетсе далей як и в замку. Мур замковый шыроки на тры сажни, а высоки на 3 копие; бакшт коло его так в квадраце яго и круглых трыдцать осем, а бакшта от бакшты положена ест на сажни двасто. Округ муру замкового звыж мили в собе маеть.

Пры шанцах, подле муру, мурованая церкоў светого Михайлы Арханьела, на которой за оного тырана (Івана Грознаго) был, оповедають, верх золоты и у великое шанобливости, цудами вславлена была. Церкву туюцар московский розгневавшыся збурыти и з дел верх збити розказал, а также злупити ее, як по молитве у ей ему ся битва с королём Стефаном не сталася по мысли его.

